**Увага! Самы позні тэрмін здачы рэкламных аб'яў у чарговы нумар — аўторак да 15 гадзін.**




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 42 (71). Слонім. 15 — 21 кастрычніка 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Кошт свабодны


# У ЛЯЛІ ПРАПАЛА МАМА



У дзіцячае аддзяленне раённай бальніцы на мінулым тыдні паступіла дзяўчынка, якую прывезла "хуткая дапамога". Высветлілася, што Лялю (так яна сябе назвала медыкам) пакінула маці, якая здымала кватэру на Брэсцкай вуліцы. Суседзі пачулі плач дзяўчынкі і выклікалі міліцыю.

Па словах урача дзіцячага аддзялення Аксаны Клыбік, стан здароўя Лялі здавальняючы. Дзяўчынка спакойная, добра спіць, размаўляе, усміхаецца... Быў вызначаны ўзрост дзяўчынкі, прыкладна, 1,8 года.

Пакуль за Ляляй глядзяць санітаркі і медсёстры. А дзе яе мама — невядома.

Перад выхадам газеты ў свет наш карэспандэнт даведаўся, што ў бальніцу званіла нейкая маладая жанчына і пыталася пра дзяўчынку. Кабета таксама абяцала прыехаць і забраць дзяўчынку, але ў дзяцячым аддзяленні яна так і не з'явілася.

**Сяргей ЁРШ**

**ГОРОД** *наши проблемы*

# ВОДКА ВЕСЕЛИТ И ГУБИТ



Почти ежедневно в реанимацию больницы поступают 1-2 человека с алкогольным отравлением.

Этот факт привел в своем выступлении на последней сессии горсовета главный врач Слонимского медобъединения Александр Гулинский. Он также отметил, что в результате пьяных разборок часто страдают люди, которым срочно потом требуется медицинская помощь. А таких фактов порядочно.

Например, недавно 42-летний слонимчанин Виктор Шолохов был осужден на 5 лет за то, что в пьяном угаре ударил ножом знакомого Олега С. Только чудо и своевременное вмешательство врачей спасло жизнь пострадавшего. А начиналось все как будто хорошо: был неплохо сервирован стол, затем звучали тосты за здоровье присутствующих. А закончилось застолье вызовом скорой помощи.

Похожая ситуация произошла с молодой супружеской парой. В приемное отделение райбольницы женщина была доставлена с многочисленными увечьями, которые ей нанес пьяный муж. Самое интересное, что сама пациентка на 26-ой неделе беременности также была пьяной.

Там же, в приемном покое, будущая мать и родила.

**Владимир КАРПОВ**

**НАВІНЫ**

## Не дачакаліся

**На мінулым тыдні вучні і настаўнікі СШ №8 парыхтавалі канцэрт для камісіі саўміна, якая правярала горад і раён.**

Канцэрт павінен быў пачацца 8 кастрычніка ў 17 гадзін. Але ні ў гэты час, ні пазней "гледачы" так і не з'явіліся. Праўда, гэта не вельмі засмуціла юных артыстаў, бо на той момант іх спецыяльна вызвалілі ад заняткаў.

**Б.П.**

## Наши нормы

**Облисполком издал распоряжение "О мерах по защите потребительского рынка".**

Утвержден перечень продовольственных и непродовольственных товаров, вывоз которых гражданами за пределы республики ограничивается. Нормы вывоза на одного человека следующие: мясо свинины и говядины — 2 кг, мясо птицы — 2 кг, колбасные изделия и копчености — 2 кг, сало — 1 кг, мясные консервы — 2 банки, сыры сычужные, твердые, плавленые — 0,5 кг, масло животное топленое — 0,2 кг, сметана — 0,5 кг, творог и творожные изделия — 0,5 кг, молочные консервы — 2 банки, крупа — 1 кг, макаронные изделия — 1 кг, хлеб — 2 кг, булочные изделия — 0,5 кг, табачные изделия — 2 пачки, спички — 5 коробок, мыло туалетное — 2 куска, мыло хозяйственное — 1 кусок, чулочно-носочные изделия детские, мужские и женские — по 2 пары, обувь кожаная — 1 пара, корсетные изделия — 1 единица, бензин, дизтопливо, не более емкости бака, предусмотренной инструкцией автотранспортного средства.

**Наталья ФУРСОВА**

## Дарога да Слоніма падаражэе

**З 16 кастрычніка падаражэюць білеты на прыгарадныя і міжгародныя аўтобусы.**

Кошт аднаго кіламетра праезду ў аўтобусе агульнага тыпу павялічыцца на 160 рублёў і складзе 700 рублёў, у машынах з мяккімі крэсламі — 730 рублёў.

**Наталля ФУРСАВА**

**ЗДАРЭННІ**

## У Грынках згарэла сена

**На мінулым тыдні ноччу ў вёсцы Грынкі цалкам згарэў сенавал, дзе знаходзілася 147 тон калгаснага сена.**

Як паведаміў рэдакцыі старшыня калгаса "Дружба" Вацлаў Ждановіч, агонь знішчыў амаль 27% сена, якое сёлета назапасіла гаспадарка. Па папярэдніх звестках, прычынай пажару стаў падпал, віноўнікаў якога цяпер шукае міліцыя.

Па словах В. Ждановіча, калгасу нанесены вялікія страты, памеры якіх цяпер падлічваюцца. У бліжэйшы час давядзецца не толькі аднаўляць знішчаны пажарам будынак, але і дадаткова закупляць кармы.

**Сяргей ЁРШ**

## Вясковы пажар

**У вёсцы Новыя Дзевяткавічы згарэў хлеў мясцовага жыхара К.**

Пажар узнік з-за кароткага замыкання электраправодкі.

**Алег ТАЧОНЫ**

## «Жыгулі» ледзь не заехалі ў хату

**Вечарам, 12 кастрычніка, рухаючыся па Шасэйнай вуліцы на вялікай хуткасці "Жыгулі" урэзаліся ў дом №5. Легкавушка паламала плот, зачапіла дрэва, пашкодзіла зруб, фундамент і ледзь не заехала ў хату.**

Ахвяр няма, але за ўсё, а таксама за рамонт машыны, вадзіцелю прыйдзецца заплаціць добрыя грошы.

Гэты дом знаходзіцца ў акружэнні чатырох вуліц, па якіх бясконцым патокам рухаюцца машыны. Гаспадар дома Іван Гаўрыльчык наводзіў парадак у агародзе пасля "жыгулёўскага" візіту.

Ён сказаў, што нешта падобнае здараецца амаль штогод. Але сёлетні таран быў асаблівы.

— Я з сям'ёй якраз глядзеў тэлевізар, — успамінае Іван, — раптам пачуўся моцны ўдар, ад якога аж падлога апусцілася і пасыпалася тынкоўка. У мінулыя гады аўтафургон плот ламаў, а аднойчы трактар прычэпам яго зачапіў, помню, нейк "Масквіч" нават ускочыў у агарод. Мы ўжо не ведаем, у якім пакоі нам начаваць, — паскардзіўся спадар Гаўрыльчык.

Сапраўды, па-чалавечы можна паспачуваць гаспадару дома №5, што на Шасэйнай вуліцы, бо надта ўжо там неспакойнае месца.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Готовьте деньги — цены подросли

**За последние две недели в неорганизованной торговле республики стоимость круп выросла, в среднем, на 25%.**

В частности, гречневой — с 65-75 до 85-90 тысяч рублей, макаронных изделий — на 23% (с 40-60 до 48-75 тысяч рублей), хлебобулочных изделий — на 15%, сахара и сосисок — на 12% (соответственно с 45-46 до 50-52 и со 115-134 до 134-146 тысяч рублей), растительного масла — на 11% (со 140-145 до 155-160 тысяч рублей), молока — на 10% (с 8,1-8,3 до 8,8-9,2 тысячи рублей за литр молока жирностью 3,2%), яиц — на 8% (с 26,8-32 до 28,8-34,4 тысячи рублей). Импортные сигареты подорожали в среднем на 8%.



# ЮНАКОЎ ЧАКАЕ ВОЙСКА

У Беларусі пачалася чарговая кампанія па прызыву на тэрміновую ваенную службу. Па планучаецца прызваць у беларускую армію 18 тысяч маладых людзей.





У сувязі з гэтым у Слонімскім ваенкамаце пачаўся медыцынскі агляд прызыўнікоў. Па словах старшыні часовай ваенна-урачэбнай камісіі Георгія Лабовіча, сёлета на 70% абнавіўся яе склад. Акрамя таго, цяпер менавіта старшыня гэтай камісіі вызначае, у якім родзе войск будзе служыць прызыўнік. Сёлета ў адпаведнасці з загадамі міністраў абароны і аховы здароўя, знішаны патрабаванні да стану здароўя маладых людзей на час іх службы ў арміі.

Ваенны камісар Аляксандр Купка сказаў карэспандэнту "ГС", што медыцынскі агляд закончыцца ў кастрычніку, а ў лістападзе пачнуць працаваць прызыўныя камісіі. Адпраўка ў войска пройдзе ў снежні, а юнакі, якія нарадзіліся ў студзені 1981 года, будуць прызывацца на пачатку 1999 года.



"Слонімшчына мусіць адправіць у войска больш за 100 чалавек. Каля 120-150 юнакоў, згодна існуючага заканадаўства, атрымаюць адтэрміноўку для працягу вучобы", — паведаміў палкоўнік Купка.

**Сяргей ЁРШ**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

# ПЯТНАЦЦАЦЬ СЛОНІМЦАЎ ЗАКАЗАЛІ САБЕ ПОМНІКІ

**Калісьці цэх помнікаў слонімскага камбіната бытавога абслугоўвання быў вядомы не толькі ў межах горада і раёна. Рабіць помнікі сюды прыязджалі заказчыкі з Мінска, Брэста, Гродна, Прыбалтыкі і нават з Польшчы. Чарга на просты, з мармуровага крышыва помнік, была на паўтары гады наперад. Ну, а хто жадаў увекавечыць памяць сваіх продкаў помнікам з чорнага граніту ці мармуру, чакаў амаль пяць гадоў. У работнікаў была добрая зарплата. А працавала тут 74 чалавекі. Цяпер — 24. Былая слава пачала згасаць.**

На пачатку 90-х гадоў, калі пачалася прыватызацыя, калектыў цэха помнікаў вырашыў акцыяніраваць прадпрыемства і стаць самастойнай адзінкай. Гэта спрыяла б своечасоваму правядзенню рэканструкцыі і захаванню калектыву. Але чыноўнікі з вобласці на гэта дазволу не далі.

— Цяпер жа акцыяніраваць няма сэнсу, — мяркуе начальнік цэха Барыс Максімчык. — Бо каб правесці капітальны рамонт будынкаў, памяняць абсталяванне трэба не проста грошы, а вялікія грошы. А дзе ж іх узяць?



Па словах Максімчыка, існуе праблема сыравіны – граніту, мармуру. Гэты матэрыял завозіцца з-за мяжы. Ды і заробкі ў работнікаў цэха цяпер невялікія. Напрыклад: мастак за выбіты партрэт атрымлівае 80 тысяч рублёў. А над адным помнікам мастаку трэба працаваць 2-3 дні.

— Заказаў у нас пакуль хапае, — працягвае размову начальнік цэха, — іх мы выконваем на працягу трох месяцаў. На сённяшні дзень кошт помніка вагаецца ад 4 да 24 мільёнаў рублёў. Цана залежыць ад формы і матэрыялу, з якога ён робіцца. У асноўным, людзі заказваюць танныя помнікі з мармуровага крышыва.



Тым не менш, у цэха помнікаў з'явіліся канкурэнты — прыватныя прадпрымальнікі. У іх больш сучаснае абсталяванне, таму ёсць магчымасць якасна і ў сціслыя тэрміны выканаць заказ. Акрамя таго яны могуць маніпуліраваць цэнамі – павышаць ці паніжаць кошт помнікаў.

Дарэчы, карэспандэнт "ГС" быў сведкам інцыдэнта, які здарыўся паміж касірам цэха і бабуляй, якая прыехала забіраць помнік па свайму мужу. Кошт помніка старая аплаціла раней, калі рабіла заказ. І вось зноў яна павінна даплаціць яшчэ амаль мільён рублёў.

Можа таму цяпер і бываюць выпадкі, калі яшчэ жывыя састарэлыя заказваюць па сабе помнікі, не спадзеючыся, што ў нашчадкаў хопіць сродкаў, каб увекавечыць іх памяць. З пачатку года для сябе заказалі помнікі ўжо 15 чалавек.

**Мікалай СУПРУН, фота аўтара**



## НАВІНЫ

### Все на борьбу с суррогатом

**Налоговый комитет призывает всех граждан, столкнувшихся с фактами реализации поддельной водки, изготовленной под маркой официальных предприятий-производителей, сообщать в налоговые инспекции государственного налогового комитета по месту жительства.**

При этом желательно указать место покупки, название алкогольного изделия, а также, по возможности, предоставить какие-либо вещественные доказательства, например, пробки или этикетки.

**Б. П.**

### Размер пособия увеличится

**Палата представителей Национального собрания Беларуси одобрили в первом чтении поправки к закону «О государственных пособиях семьям, воспитывающим детей».**

Данный законопроект направлен на усиление социальной защиты семей, воспитывающих детей-инвалидов и ВИЧ-инфицированных. Согласно внесенным поправкам, срок получения пособий для ухода за детьми-инвалидами продлевается с 16 до 18 лет.

Необходимость подобных изменений, по словам заместителя министра социальной защиты Василия Казака, связана с тем, что размер пособия по уходу за ребенком-инвалидом сейчас превышает размер социальной пенсии, назначаемой после достижения им 16 лет: на сегодня размер пенсии составляет 777 тысяч 500 рублей. Всего же на территории Беларуси сейчас проживает 26 тысяч детей-инвалидов в возрасте до 18 лет.

**БелаПАН**

### Школы переходят на 12-летнее обучение

**С 1 сентября в республике начался новый этап перехода школы на 12-летнее обучение: работают подготовительные классы для 6-летних детей, а в 1-4 классах процесс обучения проходит уже по новым программам.**

Основные положения реформы средней школы таковы: переход на обучение с 6 лет, добавление еще одного года обучения между 6-м и 7-м классами, 5-дневная учебная неделя, переход на новые программы обучения и новые учебники. Первый выпуск окончивших полный курс реформированной школы, состоится в 2010 году, отмечает агентство БелаПАН, ссылаясь на слова заместителя министра образования Геннадия Дыляна.

**Н.Ф.**

### Конкурс абаяльных

**У РДК прайшоў адбор будучых выхаванак школы-студыі мадэляў пры тэатры моды "Этуаль".**

Як адзначыла кіраўнік тэатра сп. Мадлен, на адбор з'явілася каля 40 дзяўчынак узростам ад 15 да 18 гадоў са Слоніма і раёна. Камісія выбрала з іх толькі 20 самых прыгожых і абаяльных. Заняткі ў школе-студыі будуць праводзіцца ў сераду і чацвер у 17.30 гадзін.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

## ПОШТА

***

Я, как уроженка и жительница Слонима, поддерживаю мнение тех, кто ратует за установку памятника Сапеге на площади, которая носит его имя.

Вместе с тем, хотела бы напомнить еще об одном историческом месте города, на котором по непонятным мотивам советские власти организовали торговые ряды. Это – сегодняшний рынок. Раньше на этом месте было еврейское кладбище. Выходит, что сейчас мы топчем память тех, кому там отвели место для вечного покоя. Самое непонятное то, что на костях наших предков еще строят и фундаментальное здание крытого рынка. Иначе, как кощунством это не назовешь.

В то же время на том месте, где был рынок, сегодня – площадь Ленина.

**Д. РАЧКОВСКАЯ**

***

Нядаўна ў трэцім паштовым аддзяленні я купіў тэлефонную картку на 90 мінут. Але пагаварыў па ёй толькі пяць мінут. Мне нічога не заставалася, як зноў пайсці на паштовае аддзяленне, дзе і запытаў: у чым справа? Там адказалі, што адказнасць за карткі аддзяленне не нясе. Тады вырашыў звярнуцца да начальніка сувязі Карачарава, але да яго не трапіў. У прыёмным пакоі мне сказалі, што таксама нічым дапамагчы мне не могуць. Падобная сітуацыя здарылася і з маім калегам, які працуе на кардонна-папяровым заводзе. На прахадной у нас ёсць тэлефон, з яго мы звонім па картках. Але карткі, купленыя па 53200 рублёў, працуюць толькі некалькі хвілін. Як тут быць?

**Вячаслаў Іванавіч ТАЛЕРЧЫК, жыхар Слоніма**

# Восстановим собор всем миром

Община Спасо-Преображенского собора обращается к слонимчанам с просьбой помочь восстановить поруганную святыню нашего города — Спасо-Преображенский собор. Этот храм украшал наш город до 1957 года. С Божьей помощью и при участии горожан и организаций города мы произвели раскопки фундамента, который Промыслом Божьим очень хорошо сохранился и послужит еще возрождаемому зданию. Произвели его консервацию и укрепление. Начали возводить стены Храма Божьего. Но средств и стройматериалов для продолжения строительства у нас не хватает. Тех скудных средств, которые мы собираем с пожертвований, сейчас, конечно, не достаточно.



Так выглядел Спасо-Преображенский собор до разрушения (1915г.)

Община Спасо-Преображенского собора сердечно и молитвенно благодарит руководство и трудовой коллектив за оказание посильной помощи в строительстве Спасо-Преображенского собора в нашем городе.

Возносим свои молитвы о здравии и благополучии Вас и Ваших родных и близких.

Надеемся, что и впредь Вы не оставите нас без Вашей помощи в строительстве Храма до полного его завершения.

**От имени прихожан настоятель Спасо-Преображенского собора Виктор БОКОВЕЦ**

**Наш расчетный счет №3015003830198 в филиале №422 АСБ "Беларусбанк" в Слониме. Телефон церкви 2-48-48.**

## А ЯШЧЭ БЫЎ ТАКІ ВЫПАДАК

# КЕМЛІВЫЯ НАГУЕЎЦЫ

Аднойчы ў адным слонімскага яўрэя са Школьнай вуліцы згніў зруб у калодзежы ля самай вады.

У яўрэяў быў звычай – усе праблемы абмяркоўваць гуртам. Пад вечар гаспадар запрасіў да калодзежа знаёмых, якія сталі вырашаць, колькі трэба заплаціць за тое, каб абкапаць зруб, разабраць яго, вычасаць новыя бярвенцы, паставіць іх, а потым зноў абсыпаць калодзеж зямлёю.



Яўрэі прыйшлі да высновы, што працы хопіць на тыдзень, таму за яе прыйдзецца заплаціць дваццаць злотых.

Праз пэўны час на падворку яўрэя з'явіліся два нагуеўцы-цесляры. Яны паставілі ў калодзежы драбіну, ломам выдзеўблі гнілыя бярвенні зруба, і драўляны калодзеж асеў. А зверху майстры памясцілі чатыры новыя вянкі з асіны. І ўжо ўвечары таго ж дня нагуеўцы даклалі яўрэю, што работа зроблена і прыйшла чарга плаціць грошы. Аднак гаспадар наадрэз адмовіўся аддаваць дваццаць злотых.

– Я думаў, – сказаў ён, – што вы будзеце тут сем дзён капацца... Не, за такі кароткі час работы не буду плаціць столькі грошай.

Але нагуеўцы не разгубіліся і пайшлі паскардзіцца равіну. Той прыйшоў да калодзежа, агледзіў працу і сказаў гаспадару:

– Калі ты такі разумны, то трэба было самому зрабіць калодзеж, а не наймаць людзей, таму плаці грошы, што абяцаў!

Яўрэй вымушаны быў аддаваць злотыя. Нагуеўцы задаволеныя пашпацыравалі да бліжэйшай карчмы.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 14 кастрычніка 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.000 экз.
Заказ №2829
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая.
® Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

 



ПАМЯЦЬ

# НЕРЭАЛІЗАВАНЫ ТАЛЕНТ

**Ларыса Засімовіч была здольнай мастачкай, паэткай і філосафам. Яна пражыла кароткае жыццё — усяго 25 гадоў. Нарадзілася ў Слоніме вясною 1967, а не стала яе восенню 1992 года.**

**25 гадоў — гэта так мала. Але і ў гэтым узросце заўсёды ёсць вялікія надзеі і мары.**



Пасля школы Ларыса вучылася ў Мінскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме, потым у мастацкім вучылішчы імя Глебава. Вярнулася ў родны Слонім да маці і бабулі.

Дарэчы, дзядуля і бабуля Ларысы — Іван Захаравіч і Ніна Мікалаеўна Жыткевічы — родам з Кракоткі, у свой час былі вядомымі народнымі майстрамі, працавалі на Слонімскай фабрыцы мастацкіх вырабаў. Іх творы — разьба па дрэву, вырабы з металу і карціны ўпрыгожвалі многія выставы былога Саюза. Сёе-тое зробленае рукамі Жыткевічаў захоўваецца ў нашым раённым музеі, а таксама ў іх дачкі Ліліі Іванаўны Засімовіч — маці Ларысы. Але многія творы Івана і Ніны Жыткевічаў, як і іх унучкі Ларысы Засімовіч, знаходзяцца ў прыватных калекцыях.

У Слоніме Ларыса Засімовіч уладкавалася мастачкай у тэатр. "Нялёгка было з ёю працаваць, але Ларыса была вельмі здольная, па-свойму разумела і глядзела на свет", — успамінае рэжысёр Мікалай Варвашэвіч. Да сённяшняга дня захавалася з густам і па-філасофску аздобленае афармленне акцёрскай грымёркі. Неяк нехта хацеў усё заклеіць шпалерамі, але акцёры, якія ведалі Ларысу, не дазволілі. "Няхай застанецца памяць пра яе", — казалі яны.

У вольны ад працы час Ларыса Засімовіч наведвала народную кінастудыю пры РДК. Яна вельмі любіла анімацыйнае мультыплікацыйнае кіно. Сама пісала сцэнарыі да гэтых мультфільмаў, сама іх малявала. Кіраўнік студыі Альфрэд Паўлавіч Голаднеў паказаў мне папку з малюнкамі і сцэнарыямі Ларысы, якія ён захаваў. Адзін з мультфільмаў меў назву "Благо, чем более общее, тем лучше". У галоўных ролях — чалавек, які сядзіць на лаўцы і есць мяса, а побач галодны сабака, які чакае, калі яго чалавек пачастуе мясам. Але чалавек мяса з'еў, а сабаку дасталіся толькі косці. Такім чынам Ларыса хацела паказаць адносіны чалавека да жывёл, прымусіць задумацца аб сённяшнім жыцці, ставіла перад намі пытанні: хто мы? Якія мы? Дзеля чаго і як жывём?

"Ларыса Засімовіч, — кажа Альфрэд Паўлавіч, — была даволі сціплаю і задумліваю дзяўчынай. Вельмі модна і з густам апраналася. Сваімі разважаннямі і поглядамі на жыццё яна значна адрознівалася ад сваіх равесніц. Вельмі любіла дзяцей. Неяк сабрала іх на Чырвонаармейскай вуліцы і пачала разам з імі размалёўваць плот. Казала, што гэтую вуліцу яна зробіць прыгожаю, як казка. Але ажыццявіць усё не ўдалося. Неяк Ларыса падаравала мне карціну "Апостолы глядзяць нам услед", якую берагу да сённяшняга дня".

Шмат іншых работ яна падаравала сябрам і знаёмым.

Маці Ларысы Лілія Іванаўна мне паказала альбом дачкі, а таксама яе малюнкі. Няшмат іх засталося. Але тыя, якія я бачыў, мяне здзівілі. Нацюрморты, партрэты, эцюды, намаляваныя алоўкам, гаварылі аб тым, што Ларыса была ад Бога таленавітай, цікавай і своеасаблівай мастачкай. Многія малюнкі і жывапісныя мініяцюры, пакінутыя нашай зямлячкай, перадаюць настрой і вытанчанасць формы. Гэта вельмі складаныя малюнкі, у асноўным, яе вока было скіравана на колер, на яго ўнутраную сімволіку. У малюнках вельмі шмат мудрага, развažлівага і балючага.

Ларыса Засімовіч заўсёды была адна. За ёй замацавалася рэпутацыя дзяўчыны "не ад гэтага свету". Яна па сваім духоўным і разумовым развіцці апярэдзіла многіх.

А яшчэ — дзяўчына пісала вершы. Тое, што не магла перадаць у малюнках, спрабавала перадаць у паэтычных радках. У іх адчуваецца боль душы і ўнутраны настрой маладой асобы. Адчуваецца, што Ларыса малявала і пісала тады, калі ў яе было натхненне, а таксама, калі ёй станавілася сумна, горка і прыкра.

Сябры і аднакурснікі ніколі яе не забывалі: запрашалі на выставы ў Мінск, пісалі пісьмы, званілі. І раптам — Ларысы не стала: дзяўчына скончыла жыццё самагубствам. Прычым — самым страшным — спаліла сябе...

У пісьмах да сяброў і аднакурснікаў Ларыса Засімовіч пісала, што "душа мая — парванная кайстра. Што зберагчы хацела, усё страчана", а яшчэ яна пісала, што "светлыя людзі — як напамін аб Вечным, чорныя — аб тле". Яна казала, што "жыццё сатканае з цудаў. Кожнае імгненне, кожная часцінка жыцця — цуд з цудаў. Трэба толькі гэта адчуць і бачыць".

У 1993 годзе ў Віцебску, у мастацкім цэнтры імя Марка Шагала, адбылася выстава, прысвечаная памяці Ларысы Засімовіч, якую наладзілі яе сябры. На выставе экспанаваліся графічныя творы мастачкі, якія захаваліся.

Нягледзячы на сваё 25 гадоў, яна была і засталася нерэалізаваным талентам, які не ўдалося нам зберагчы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## ВЕРШЫ І МАЛЮНКІ ЛАРЫСЫ ЗАСІМОВІЧ



***

Не могу оторваться от милых глаз...
В ожидании чуда стою... Мучительно.
Жду — польется поток бессловесных фраз,
Но понятных, доступных, весьма убедительных.
Не моргну, напряженья дитя — слеза,
Сквозь песок просочившись, цветок напоила.
Оживаю, читая твои глаза:
Гениальны они и безмерно милы.
Ты почаще глаза мне свои дари,
Глубина их бездонна, как небо весны,
А меня ты поймешь, прочитав мои —
Пусть они некрасивы, но очень честны.
Ведь они не солгут, если даже язык
Нагло врет, позабыв о приличии.
Посмотри мне в глаза и увидишь, как вдруг,
Сбросив черную маску и грязный парик,
Я явлюсь тебе в светлом обличии,
И ты скажешь мне: "Искренне рад тебе, друг"!

***

Как чернила из флакона,
Пролилась на небо ночь,
Лошадь пегая в загоне
Родила под утро дочь.
Звезды в час
ее рожденья
Градом падали с небес,
Жеребенка
птичьим пеньем
Поздравлял,
проснувшись, лес.
Солнце,
рыжим апельсином
Загорелось в облаках.
Вечный странник —
ветер синий
Прилетел издалека.
Акварельной
кистью тонкой
В цвет рассвета навека
Солнце утра жеребенку
Разукрасило бока.
Грива пламенем горит,
Под ногами высота.
В небе утреннем парит
Масти розовой мечта.



НАША СПАДЧЫНА

# Атрад татарскіх стралкоў

**Сёлета многія краіны свету будуць адзначаць 80-я ўгодкі заканчэння Першай сусветнай вайны. Як напамін аб ёй, на Слонімшчыне ёсць некалькі вайсковых могілак, на якіх пахаваны салдаты і афіцэры рускай і нямецкай армій.**

У пяці кіламетрах ад Слоніма знаходзяцца татарскія могілкі, дзе пахаваны вайскоўцы-мусульмане, якія служылі ў рускай арміі і загінулі або памерлі ад атрыманых ран падчас Першай сусветнай вайны. Вядома, што яны былі не мясцовыя, а паходзілі з Расіі, з Казанскай і Уфімскай губерняў. Расійскія ўлады паслелі паставіць на могілках агульны помнік. А ў 1930-х гадах, ужо пры польскай уладзе, сын слонімскага імама (святара) Якуба Смольскага замацаваў на магілах вайскоўцаў шыльдачкі з прозвішчамі пахаваных, напісаны лацінкаю.

Гэтыя помнікі захаваліся і да сённяшняга дня. Акрамя іх, на татарскіх могілках ёсць пахаванні, якія адносяцца да XIX стагоддзя. Менавіта тады тыя мясціны слонімскай мусульманскай грамадзе падараваў граф Пуслоўскі. А вось нядаўна стала вядома, што невядомыя вандалы раскопвалі магілы вайскоўцаў-мусульманаў...

Пры польскай уладзе ў Слоніме стаяла шмат вайсковых часцей, у якіх служылі мусульмане. Калі яны прымалі прысягу, то запрашаўся слонімскі мусульманскі святар (імам). Ён прымаў іх прысягу на Каран.

Да вайны пры слонімскай татарскай грамадзе існаваў атрад стралкоў. Гэта была арганізацыя вайскоўцаў запасу, якая дзейнічала пад началам маёра ў адстаўцы Давіда Яновіч-Чаінскага. Стралкі ўдзельнічалі ў ваенных парадах, якія праходзілі на Парадней вуліцы (цяпер — Першамайская). Лёс маёра Яновіч-Чаінскага быў трагічны. Пасля прыходу ў Слонім у 1939 годзе Чырвонай Арміі, ён загінуў у падвалах НКВД. Сімвалічны помнік маёру Яновіч-Чаінскаму быў пастаўлены яго жонкай у Польшчы на Варшаўскіх татарскіх могілках...



*Помнік на брацкай магіле воінам-мусульманам*

Успамінаючы слонімскіх вайскоўцаў-мусульман, нельга не ўспомніць генерала рускай арміі ў адстаўцы Ібрагіма Александровіча. У 1920-30-я гады ён быў у Слоніме муніцыпальным дарадцам, вядомым грамадскім дзеячом, які ўвесь час дапамагаў бедным гараджанам. Пры савецкай уладзе, у 1940 годзе бальшавікамі былі вывезены ў Расію яго сваякі, а сам генерал разам з жонкаю быў пакінуты на волю лёсу. Хутка яны памерлі ў нястачы.

**Сяргей ЁРШ**



*Атрад слонімскіх стралкоў*

**"ГС" удзячна старшыні Слонімскага аб'яднання мусульман Сулейману Байрашэўскаму за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтага артыкула.**



ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ

## Газета "Слонімскі Кур'ер"

У змаганні за волю беларускага народу беларуская прэса набыла новага сябра. У пачатку 1944 году ў Слоніме пачала выходзіць новая тыднёвая газета пад назвай "Слонімскі Кур'ер".

Выдавец яе — Менскае Прэсавае выдавецтва, галоўны рэдактар — д-р Войтэнка.

**"Новы шлях", №2 (38), студзень 1944 г.**

 

Газета Слонімская
15 — 21 кастрычніка 1998г., № 42 (71)

**НАШ ФОТАКОНКУРС**

# "У АБ'ЕКТЫВЕ — ДЗЕЦІ"



*Султан з вуліцы Яршова*

*Фота Наталлі МІЗГІР*



*Ура! Пачынаецца «Калыханка»*

*Фота Васіля КАЗУКА*



*Цілі-цілі цеста, жаніх і нявеста*

*Фота Таццяны БЕБЕШ*

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Ламека Аліна
Дзям'яненка Віка
Якімовіч Віка
Акуневіч Ягор
Захарэўскі Дзіма
Дуброўская Дзіяна
Масуноў Саша
Орсіч Саша
Івуліна Оля
Ануфровіч Ілля
Канаховіч Жэня



## КАГО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС?



**У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:**

Высоцкі Андрэй і
Чэндрыкава Наталля
Радзевіч Мікалай і
Сіняк Святлана

## ШЧАСЦЯ ВАМ!

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

| | |
|---|---|
| **Курэцкая** Майя Яўгенаўна | 1965 г.н. |
| **Протас** Самуіл Сяргеевіч | 1928 г.н. |
| **Нядзельчык** Міхаіл Аляксандравіч | 1917 г.н. |
| **Хомка** Юрый Мікалаевіч | 1970 г.н. |
| **Журовіч** Мікалай Фёдаравіч | 1943 г.н. |
| **Храпунова** Вера Ануфрыеўна | 1923 г.н. |
| **Саўчук** Мікалай Пятровіч | 1933 г.н. |
| **Явароўскі** Алег Мар'янавіч | 1953 г.н. |
| **Данільчук** Аляксандра Феафанаўна | 1912 г.н. |
| **Мацейчук** Стэфаніда Васільеўна | 1903 г.н. |
| **Роўгач** Іван Іванавіч | 1967 г.н. |
| **Казакова** Людміла Мікалаеўна | 1937 г.н. |
| **Канавалаў** Іван Філіпавіч | 1940 г.н. |
| **Саванец** Юрый Віктаравіч | 1961 г.н. |
| **Сліж** Генрых Аляксандравіч | 1936 г.н. |

**КРОССВОРД**

*от Владимира ВАШУТЫ*

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:** **1**. Единица площади в системе английских мер. **2**. Сильное возбуждение, неистовство. **3**. Город в Словакии на реке Грон. **4**. Гряда подводных скал. **5**. Электрическая сушилка для волос. **6**. Самая длинная река в мире. **7**. Узкая полоса света. **8**. Талон из кассы. **10**. Подергивание мышц. **11**. Повар на судне. **12**. Один из пяти типов правильных многогранников. **13**. Повседневная жизнь. **14**. Тонкие доски, идущие на обшивку сооружений. **15**. Широкое и длинное женское пальто. **16**. Река в юго-восточной Англии. **17**. В спорте — мягкая подстилка-матрац. **19**. Большая сумма денег. **20**. Звук, доносящийся от движущейся машины и т.д. **21**. Прекращение войны. **22**. Обшивка из сборчатой легкой ткани. **23**. Показная роскошь. **24**. Водопад на р.Меконг на границе Лаоса и Кампучии. **25**. Столовый прибор. **26**. Известный белорусский футбольный судья. **28**. Группа горных пород различного происхождения, стройматериал. **29**. Город в Марокко. **30**. Рыба отряда карпообразных. **31**. Волосяной покров на теле животного. **32**. Певческий коллектив. **33**. Город на побережье Большого Австралийского залива. **34**. Город в Иране. **35**. Город в Бангадеш. **37**. Расточительный человек. **38**. В биологии: высшее подразделение в систематике живых существ. **39**. Сильный жар, пламя (устар.). **40**. Лицо, изображение лица на старинных портретах, иконах (устар.). **41**. Известный английский мореплаватель. **42**. Чашеобразное углубление в привершинной части гор. **43**. Река в Екатеринбургской области. **44**. Город во Франции. **46**. Служебный разряд военных и гражданских служащих. **47**. Обоняние. **48**. В библейской мифологии один из трех сыновей Ноя, который был проклят Богом. **49**. Пчелиное сиропообразное вещество. **50**. Город в юго-восточной Англии. **51**. Пьеса А.Н. Островского. **52**. Род однолетних трав семейства бобовых. **53**. Город в Австралии. **55**. Сооружение для стрельбы. **56**. Часть лица. **57**. Часть скелета. **58**. Стойкое увеличение щитовидной железы. **59**. Одногнездный плод растений семейства бобовых. **60**. Корабельная носовая надстройка. **61**. Семья советских цирковых артистов-иллюзионистов. **62**. Город в Венгрии. **64**. Вода в твердом состоянии. **65**. Река, впадающая в Таганрогский залив. **66**. Археологическая культура железного века в Центральной Африке. **67**. Остров в Эгейском море. **68**. Город в Тунисе. **69**. Река, левый приток Дона. **70**. Правый приток Рейна. **71**. Административно-территориальная единица в Греции. **73**. Известный русский советский писатель, автор повести "Волоколамское шоссе". **74**. Город в Пермской области. **75**. Город во Франции. **76**. Штат в США. **77**. В библейской мифологоии праведник, спасшийся во время всемирного потопа. **78**. Первый гражданин ГДР, совершивший полет в космос. **79**. Город в Костромской области. **80**. Остров в Малайском архипелаге.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:** **1**. Законченная часть пьесы. **2**. Зодиакальное созвездие. **3**. Молдавский народный танец. **4**. Угнетенный работник. **5**. Английская мера длины. **6**. Часть лица. **7**. Ручное оружие для метания стрел. **8**. Переносное жилище народов севера. **9**. Домашнее животное. **10**. Перевязанный сверток товара. **11**. Известный чешско-австрийский писатель. **12**. Известная советская гимнастка. **13**. Небольшой ресторан. **14**. Короткое музыкальное приветствие. **15**. Река, левый приток Волги. **16**. Город и порт на севере Франции. **17**. Супруг. **18**. Город в Таиланде. **19**. Гигантское водное млекопитающее. **20**. Начальник, глава, руководитель. **21**. Участок побережья, острым окончанием вдающийся в море. **22**. Крепкий спиртной напиток. **23**. Титул монарха, правителя. **24**. Город Швейцарии. **25**. Река в ФРГ. **26**. Минерал, поделочный камень. **27**. Крестный отец по отношению к родителям крестника. **28**. Город в Курской области. **29**. Пустой человек, любящий порисоваться. **30**. Первое блюдо. **31**. Мягкий белый известняк. **32**. Рыба отряда трескообразных. **33**. Судьба. **34**. Сосновый лес. **35**. Город в Румынии на реке Сомеш. **36**. Древнее народное сказание о легендарных героях. **37**. Старинное холодное оружие. **38**. Известный русский архитектор. **39**. Область между бедром и нижней частью живота. **40**. Город и порт в Болгарии, на р.Дунай. **41**. Система условных знаков. **42**. Старинная мера пахотной земли. **43**. Род однолетних и многолетних трав семейства злаков. **44**. Город во Франции. **45**. Город в Марокко. **46**. Четное число. **47**. Известный голландский живописец. **48**. Премьер-министр Великобритании в 1970-74 г.г. **49**. Марка отечественных грузовых автомобилей. **50**. Род деревьев, семейства буковых. **51**. Внутренняя волокнистая часть коры липы и др. **52**. Обломанная часть ветки дерева. **53**. Город в Верхней Вольте. **54**. Место, где растут фруктовые деревья. **55**. Тоже, что и тротил. **56**. Известный английский писатель. **57**. Забор, частокол. **58**. Известный советский пианист, народный артист СССР. **59**. Самый низкий мужской голос. **60**. Нечистая сила. **61**. Содержимое нижнего отдела толстого кишечника. **62**. Река во Франции, приток реки Мозель. **63**. Строение для жилья. **64**. Часть лица. **65**. Сооружение в порту. **66**. Река в Тайланде с одноименным городом. **67**. Река в юго-восточной Англии. **68**. Звание, связанное с почетным положением. **69**. Название сухих оврагов в горах средней Азии и Казахстана. **70**. Административно-территориальная единица в Швеции. **71**. Город в Испании на побережье Атлантического океана. **72**. Город в Ленинградской области.



**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№41)**

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ: 1**. Пенкроф. **4**. Стекло. **6**. Импорт. **10**. Примета. **12**. Рацион. **13**. Краска. **15**. Компас. **19**. Тантал. **23**. Кулинар. **25**. Перламутр. **26**. Олимпиада. **28**. Скипетр. **29**. Альянс. **32**. Салака. **38**. Ставка. **40**. Корсар. **42**. Крамола. **43**. Кабала. **44**. Виадук. **45**. Нагайка. **ПО ВЕРТИКАЛИ: 1**. Попона. **2**. Коммерция. **3**. Фиаско. **4**. Скерцо. **5**. Калина. **7**. Палата. **8**. Тамада. **15**. Крапива. **16**. Мигрень. **17**. Рустика. **18**. Заплата. **20**. Тачанка. **21**. Лоханка. **27**. Эпиграмма. **30**. "Листок". **31**. Невежа. **33**. "Аврора". **34**. Кортик. **35**. Лацкан. **37**. Октава. **ПО ДУГАМ: 9**. Афиша. **11**. Армяк. **14**. Слега. **22**. Тиара. **24**. Репер. **36**. Аорта. **39**. Тираж. **41**. Актер.

